Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.




ГУМАРЫСТЫЧНАЯ 2-х ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4 «МАЛАНКА» | № 14 1-га ВЕРАСЬНЯ. 1926 г. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 год 8 злот., „ паўгоду 4 „, „ тры мес. 2 „, „ адзін м. 1 „ — За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт. |
|---|---|---|



**Старшы вастрожны сторож** (*да палітычнага вязьня*): Што? Аб'явіў галадоўку — амнэстыі табе зажадалася, а што-ж я рабіць буду, калі вас бунтаўнікоў-халераў пазвальняюць?!

У нас гэта не заграніцай, — можаш сабе галадаць колькі захочаш: ніхто не перашкодзе, а як памрэш з голаду, дык хутчэй убачыш амнэстыю на небе.



# КАЛЫХАНАЧКА

(*Песьня аб вастрожнай долі*).

Аб татульцы запяю — сумну песеньку сваю:
У вастрозе ён сядзіць — на жалезе цьвёрдым сьпіць...
Дзын-бом, дзын-бом —
Ланцугоў чуваць там звон...
Дзын-бом, дзын-бом —
Там за Волю сядзіць ён!

У калысцы паляжы, схавай ручкі — ня дрыжы!
Ай, няма што есьці нам, бо татулька сядзіць там..
Дзын-бом, дзын-бом —
Ланцугоў чуваць там звон..
Дзын-бом, дзын-бом —
Там за Волю сядзіць ён!

Калысачку гайдаю, накарміць чым ня маю...
Маё дзетка крэпка сьпіць і аб хлебе чорным сьніць. .
Дзын-бом, дзын-бом —
Ланцугоў чуваць там звон...
Дзын-бом, дзын-бом —
Там за Волю сядзіць ён!

Вось калісь пазнаеш сам, праз што цяжка жыці нам:
Як плывець з нас кроў і пот, як цярпіць увесь народ...
Дзын-бом, дзын-бом —
Ланцугоў чуваць там звон...
Дзын-бом, дзын-бом —
Там за Волю сядзіць ён!

Як машына, татка наш, сьветлай долі нам нямаш:
Цяжка праца — наша маці, голад, гора ў нашай хаце...
Дзын-бом, дзын-бом —
Ланцугоў чуваць там звон...
Дзын-бом, дзын-бом —
Там за Волю сядзіць ён!

Багачы, што тут жывуць, скуру з нас яны дзяруць,
Мы працуем цэлы дзень, каб напхаці ім кішэнь...
Дзын-бом, дзын-бом —
Ланцугоў чуваць там звон..,
Дзын-бом, дзын-бом —
Там за Волю сядзіць ён!

Як калісьці падрасьцеш, ваяваць і ты пайдзеш, —
Я заплачу у той час, можа сьмерць разлуча нас...
Дзын-бом, дзын-бом —
Ланцугоў чуваць там звон...
Дзын-бом, дзын-бом —
Там за Волю сядзіць ён!

Ёсьць на сьвеце гора шмат, душыць нас чужы і брат,
Праз чужых ў мазолях рукі, для сябе адно прынукі...
Дзын-бом, дзын-бом —
Ланцугоў чуваць там звон...
Дзын-бом, дзын-бом —
Там за Волю сядзіць ён!

Сьпі, дзіцятка, мілы мой... там за кратай татка твой,
Днём і ночай ў кожны час — думку думае аб нас.
Дзын-бом, дзын-бом —
Ланцугоў чуваць там звон...
Дзын-бом, дзын-бом —
Там за Волю сядзіць ён!

Калысачку гайдаю, сваю песьню канчаю,
Маё дзетка крэпка сьпіць, дый аб чорным хлебе сьніць

**Г. Л.**



# Доля горкая мая!

Баба дзеда кіем біла,
Чырвону хустачку згубіла.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

А знайшоў паліцыянт,
Кажа гэта — транспарант *)
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Справа, кажа, штось нячыста:
Мо' падкінуў камуністы.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Не зьляцела-ж сама з неба, —
Справу гэту „збадаць“ трэба.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

. . . . . . . . . . . . . .

Крэпка ў вёсцы сьпіць народ;
Ідзець паліцыя ў паход.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Камэндант уперадзе
Дружыну збройную вядзе.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Блішчаць на месяцы штыкі,
Увіхаюцца шпікі.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Доўга трэсьлі там ці мала,
Абыскалі хат нямала.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

У ўдавы старой Агаты
Качаргу знайшлі за хатай.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

— Гэта мусі карабін, —
Палісман кажа адзін.
Гэй, гэй, доля, —
Доля горкая мая!

Гэта — шабля, — другі кажа,
Як махнеш, дык кожны ляжа.—
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

У Мікіты на паліцы
Знайшлі мерачку пшаніцы.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

—Гэта мусі дынаміт,—
Кажа старшаму найміт.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

У Мацея ля страхі
Знайшлі нарог ад сахі,
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

—Гэта, мусі, кулямёт,
Або можа самалёт.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

А у цёткі, у Барбары
Знайшлі нітак клубкоў пару.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

— Гэта,— кажа чын да чына,—
Альбо бомба, альбо міна.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

. . . . . . . . . . . . . .

Па дарожцы, па крывой
Грамаду вядзе канвой.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Йдуць старыя і малыя,
І сівыя і крывыя.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Кайданамі пыл мятуць,
Хоць нявінных, а вядуць.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Аб усім здарэньні гэтым
Пісалі панскія газэты.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Што паліцыя дапала, —
Арганізацыю „злапала“.
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Што знайшлі там зброі многа,
Дык за тое-ж — да вастрога!
Гэй, гэй, доля мая, —
Доля горкая мая!

Я. Маланка.

*) Транспарант — сьцяг, штандар.



# Кутнія навіны.

Кажуць, што пас. Ярэміч, едучы ў Жэнэву на Зьезд Нацыянальных Меншасьцяў вясёла напяваў:

„Быў сабе на пошце,
„Ладзіў тэлефоны,
„А цяпер ў Жэнэве
„Скажу што вучоны“...

---

Кажуць, што ў рэдакцыях „Сялянскай Нівы“ і „Biełaruskaj Krynicy“ ня вераць, што аўторам паэмы „Новая Зямля“ ёсьць Якуб Колас, а зборніка „Дудка Беларуская“ — Мацей Бурачок, бо зьмешчаны ў „Сял. Ніве“ верш нейкага Б—і „Песьня батрака“ аказаўся ў 2/3 вершам Янкі Купалы, а трагі-камэдыя «Выбары старшыні» не К. Сваяка, а Янкі Быліны.

---

Кажуць, што пісьменьнік Аляхновіч піша вясёлую опэрэтку папольску:

„Miałeś chamie, złoty róg“, галоўным гэроем якой будзе «доктар» Паўлюкевіч.

---

Кажуць, што вядомы беларускі эсэр Мамонька носіцца з думкай выпускаць новую беларускую газэту пад назовам «Без надзейны Кліч».

---

Кажуць, што „беларускія“ сэнатары Багдановіч і Назарэўскі ўжо навучыліся тры словы пабеларуску і пішуць свае сэнатарскія мэмуары „О глупости бѣлорусскаго народа“.

---

Кажуць, што Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры маніцца ў хуткім часе замяніць свой назоў на: „Беларускі Інстытут Гаспадаркі, Абяцанак і Культуры“.

---

Кажуць, што на чарговым паседжаньні Школьнай Рады ў Вільні будзе ўнесена сьпешная прапазыка аб прымусовым увядзеньні сярод беларускіх дзеячоў і пісьменьнікаў цэлібату (бязжэнства).

# Палітыкі.

— У бальшавікоў дзеюцца нямаверныя рэчы, аж валасы становяцца дубам на галаве!..

— Ага, цяпер я ведаю, чаму польскі ўрад паслаў свайго пасла ў Маскву, які абсолютна лысы.



# Пакуль асьветы не здабудзеш, увесь век цярпеці будзеш...



Сумны стаўся дзед Даніла, —
Усе жыцьцё яму няміла;
Марыў лепшых дзён прыждаці,
Але... штосьці нячуваці.



Усё жыцьцё то — шлях цярпеньня:
Успомніў, як цялі раменьні
За паншчынай яму сьпіну;
Думаў: „ляпей мо' будзе сыну“.



Цар на фронт гнаў яго сына,
Там ад кулі ён загінуў,
З думкай, што на ў крыві полі
Узрасьце мо' кветка Волі.




Другі сын пад сьцягам біўся,
Там ён бедны заваліўся
І ад шчасьця ня чуў болю,
Бо жыцьцё аддаў за Волю.




Хто змагаўся, — мае Волю,
А мы маем ўсьцяж нядолю, —
Нават школы няма роднай, —
Эх, ты доля, ты гаротна!




Толькі вось адна надзея,
Адна радасьць ў сэрцы тлее:
Моладзь будзіцца наўкола,
Йдзе змагаціся за школу!

# ДЭБАТЫ.

Розныя часам бываюць дэбаты.

І на розныя тэмы.

Вось, напрыклад, ня маем мы родных беларускіх школаў.

Але-ж маем не адну і ня дзьве такіх інстытуцыяў, якія ўсе рупяцца аб тым, каб як-нібудзь хаця прыватным парадкам закладаць беларускія школы.

Ну, а школаў усё-ж такі, як няма так няма.

А дзеля гэтага часта нашыя культурна-прасьветныя арганізацыі вядуць дэбаты на самыя цікавыя тэмы.

Нядаўна, вось, „сьвядомы“, вядомы і г. д. беларус выступіў у адным таварыстве школы з прапазыцыяй.... бароцца з ужываньнем алькоголю.

Выступіў ён, напэўна, таму, што карыстаецца сярод нас немалым аўторытэтам:

Ён-жа ж сам ліквідатар віленскага саюзу коопэратываў, а таму, што тут ужо больш ліквідаваць няма чаго (на школы-ж знайдуцца яшчэ лепшыя за яго „казённыя“ ліквідатары), дык задумаў гэты панок зьліквідаваць ужываньне беларусамі гарэлкі.

Справа, праўду кажучы, ня гэтак лёгкая, як з коопэрацыяй, бо хто-ж з нас грэшных ня любіць часам памачыць губы, або навет крыху й пасьмяшыць годнась беларускага пасла да Сойму.

Барацьба яшчэ тым ускладняецца, што й манаполь дзяржаўны тут зацікаўлены.

— Каб як, боручыся проці ўжываньня гарэлкі насяленьнем, — падумаў наш ліквідатарскі дзеяч, — не зрабіцца ў вачох грамадзянства „антыпаньствовцэм“?

-- Але што там манаполь! — стрэліла яму ў галаву бліскучая, бы тая маланка, новая думка. — Быў-жа, вось, і ў царскія часы гэты манаполь, у кожнай вёсцы вялікай даволі гэтых „манаполяў“ было. Але было таксама і „Общество попечительства о народной трезвости“, тым самым царызмам арганізованае...

Так разважаючы, дзеяч наш пастанавіў добра падрыхтавацца да свайго выступленьня і пачаў шукаць на патрэбную тэму літэратуры. Знайшоў у беларускай кнігарні брашуру „Страшны вораг (гарэлка)“, але яна яму паказалася, чамусьці, замалою і праз гэта мусіў абегаць некаль кіх букіністых. У аднаго з іх знайшоў такі няменшую за „Страшнага ворага“ кніжку, якая завецца „О вредѣ пьянства“ дый пачаў студ'яваць...

Падрыхтаваўшыся, як трэба, узяў слова і ўнёс прапазыцыю: *зьвярнуцца да ўсяго беларускага грамадзянства з адозваю — ня ўжываць гарэлкі...*

— „І ня курыць“, — пачуўся з кутка тэнорчык другога нашага маралізатара, — „дадаю папраўку“...

Але што гэта я! Хацеў расказаць пра нейкія дэбаты?.. Ды, вось, сьвечка дагарэла саўсім, а другое ня маю сёньня.

Мушу на гэтым скончыць.

Пра дэбаты хіба іншым разам.

Мо' — гэтак — праз месяц, калі ізноў пачне рыхтавацца да жыцьця нумар „Маланкі“.

**Звончык.**

## Бальшавіцкі гумар.

„Пілсудскі ў поўным умундзераваньні".

## Нашы жабракі.

— Паночку, дайце беднаму дзеду на лустачку хлеба.

— Маеце, — толькі не на гарэлку.

— Дзякуй, дзякуй, — на гарэлку я ўжо назьбіраў.

## Палітычныя частушкі.

**АМЭРЫКА.**

Амэрыка ўсьцяж клапоча:
Абязброіць іншых хоча,
А аб сабе дык ні гу—гу
Бо сама: „ой, не магу!"

**МЭКСЫКА.**

Ксяндзы там зрабілі бунт,
Бо ўцякае з пад ног грунт;
Авечак шкода так кідаць, —
Хто ж іх будзе падстрыгаць.

**ШВЭЙЦАРЫЯ.**

Румын, бразыльчык і гішпан,
Кітаец, сэрб і польскі пан,
Пачнуць бой за месца ў „Лігу",
(Застанецца нехта з фігай).

**АНГЛІЯ.**

У Англіі «Лябор Парты»
Ўсё бастуе не на жарты:
Вуглякопы стаяць стойка,
(То ня ў Польшчы забастоўка!)

**ФРАНЦЫЯ.**

Франк ляціць... (вось божа кара!)
Не памог і Пуанкарэ,
Тут і чорт сам не паможа,
Як пралетар не пераможа.

**ПОЛЬШЧА.**

У Польшчы, братцы, нешта *тэго*
*„Одродзэня моральнэго"*
Як-бы быццам ня было
Усякі сьлед аб ім зьмяло.

**Янка Маланка.**

## Бальшавіцкі гумар.

Загранічны капіталісты: Мы можам вам даставіць лепшую фарбу найдабрэйшай якасьці.

## Афорызм цяперашняга часу.

Хітры мудрага пытаўся:
„Нашто розум здаўся?
Дык тут мудры ня стрымаўся,
Гэтак адазваўся:
Розум сёньня дачакаўся,
Што на сьметнік здаўся...
Мудры з голаду ўмірае,
А ўсё хітры мае.

*Г. Л.*

# МАЛЕНЬКІ ФЕЛЬЕТОН

## Мая адозва

Не магу! Вытрываць не магу!

Лаўры Паўлюкевіча не даюць мне спакою.

Жартачкі — гэткую адозву да грамадзянства пальнуў!

Трэба яму памагчы.

Яшчэ больш трэба навыдумваць на беларускі рух, каб і духу яго не засталося ў Польшчы.

Дык вось слухайце, грамадзяне:

*ОДЭЗВА.*

"Вы што гэта, нікога ня пытаючыся, запісваецеся ў Сялянска-Работніцкую Грамаду?

Запомнілі, што ёсьць для Вас Лукішкі і іншыя месцы „веньзеня".

Паслом то нічога — яны нятыкальныя, а вы то як? хто вас карміць будзе ды сем'і вашыя? Паслоў, дык нават сам фараон эгіпэцкі ня можа арыштаваць, калі мумія яго нават і ўваскрасьне неспадзявана.

А вас — дык кожны солтыс, — калі выдзе гэткі закон...

Што вы? Грамада?

Знойдзецца месца для ўсіх.

Вось, напрыклад, колькі на утраквістычных настаўніцкіх курсах у Вільні вас было: чалавек трынаццаць якраз па протэкцыі Тымчасовай Рады.

Ня ўсе, праўда, дасталі настаўніцкія пасады, але-ж дактары тут вінаваты: спачатку прызналі некаторых зусім здаровымі, а падчас курсаў, відаць, яны на „грамадзізм" гэтым ваш захварэлі.

Камуністыя дый годзі! Разам, як жаўнеры ў казарме, ў інтэрнаце жылі. А што-ж гэта такое, як не камунізм?

Некаторыя дык настолькі былі неасьцярожныя, што жаніліся на...

Але трудна казаць далей — зварот не беларускі.

Да таго-ж яшчэ і ў крамкі жыдоўскія табаку альбо ваду з содаю купляць хадзілі.

А ці ведаеце вы, што кожная маладая жыдоўка ў крамцы — гэта-ж чысты камсамол.

Калі трэба, дык і „Ад веку мы спалі" засьпявае...

Слухайце, што кажа вам маё пяро, беларускім мужыком на сьвет пушчанае.

Маўчэце аб Беларусі, бо ёсьць толькі Польшча ды Расея на сьвеце.

Нават і Кітайшчына — гэта выдумка, бо там бальшавікі: багдыхана свайго, багамі пастаўленага, кітайцы даўно скінулі, ад таго і парадку ў іх няма. Рыхтык таксама, як у Расеі.

А ў Расеі бальшавікі ліха ведае, як сварацца. Як упусьцяць толькі з рук сваіх уладу, дык і капут тады ўсяму руху беларускаму, бо Паўлюкевіч вернецца на „лоно Отечества" свайго, беларускія дзеячы хіба надта далёка куды ўцякуць ад беларускага народу, які адразу тады йзноў рускім лічыць усе пачнуць. Адродзіцца Расея.

Аб Беларусі і пікнуць нікому тады нельга будзе.

Вось як на сьвеце ўсё перавернецца.

Паўлюкевіч і губэрнатарам Беларусі цэлае можа тады быць.

Я ўсё, здаецца, сказаў. Калі каму адозва мая не падабаецца, дык протэстуйце...

Амэн! **Звончык.**

Крапіва.

## У вагоне.

Сапе, сапе аж душыцца
З цяжару паравік,
Слупы ў вакне мітусяцца —
Згубіўся ім і лік.

Бягуць, бягуць, хаваюцца
За белы дыму хвост,
Цішэй, цішэй — спыняюцца —
Мы едзем цераз мост.

Вось зноў хутчэй... урыўкамі,
Якраз, як у кіно,
Мільгае руні ніўкамі
Зялёнымі вакно.

Машына мілі коўтае,
Прарэзвае лясы,
Марнеюць брудна-жоўтыя
Сям-там яшчэ аўсы.

Ураджай быў які-колечы,
Карысьці ж шмат ня жджы:
Гніе на полі стоячы —
Пашкодзілі дажджы...

Вось даль падперазалася
Істужкаю ляскоў,
Вось вёска паказалася
З-за ўзгорку спатайкоў.

Усё хаткі саламяныя
Стаяць, як капякі,
Схіліліся, як п'яныя,
Над люстраю ракі.

Сьвісток. Цішэй. Прыехалі,
Пусьцее наш вагон
І думкам быццам некалі
Пусьціліся бягом.

## Нічога не знайшоў.

Адзін польскі магнат з „Крэсаў" ехаў у Варшаву ;калі ён заснуў, дык у кішаню яго залез злодзей — прафэсіянал, які быў багата апрануты і ехаў ў І-ай клясе. Магнат прачнуўся і ўбачыўшы чужую руку ў сваім кішані вельмі зьдзівіўся і запытаў:

— Як вам ня стыдна, гэтакі элегантны пан, а лезеце ў чужую кішаню?

— Гэта мая прафэсія,—адказаў злодзей. А як вам ня стыдна: гэта-ж вы гэтакі багаты і знаны пан і едзеце ў І-ай клясе, а ў ніводным кішані, апрача білета нічога няма?

Магнат весела ўсьмяхнуўся, бо грошы яго былі ў скарбніка, які ехаў ў другім вагоне.

К. Сьвет...

## Ліст Гаўрылы Пяруна да рэдактара „Маланкі"



Паважаны Грамадзянін
Рэдактар!

Даруйце, што не назваў Вас я „панам", бо „пан" — гэта той, што жывець з нас абманам, а я Вас, Рэдактар, о-ей паважаю і Вашу „Маланку" суседзям чытаю.

Мае яна павагу ў нашым народзе, толькі шкада вось, што рэдка выходзе.

Тымчасам хачу Вам напісаць пра нашага папа — „айца благачыннага", што прасіў ў мяне кажуха аўчыннага, за тое, што хацеў я даць шлюб сыну, дый яшчэ воз бульбы і жыта асьміну. Ён ходзіць па вёсцы, „мужыкамі", нас лае, а „мужыцкае" жытцо і бульбу на воз забірае. А часам, як прыдзеш да яго ў патрэбе, дык просіць ён грошай і гавора аб небе. І хваліць цара ён і тую часіну, калі розгамі білі мужыцкую сьпіну.

Дык вось які поп наш — „айцец благачынны", што любіць жыта і бульбу і кажух аўчынны.

З паважаньнем да
Вас і ўсіх супрацоўнікаў „Маланкі"

Гаўрыла Пярун.

## На балі.

У адным провінцыяльным мястэчку ў афіцэрскім „казыно" знаёмяцца дамы:

*Першая:* Я — гэнэральша Іванова.

*Другая:* Я— палкоўніца Жданава.

*Трэцяя:* *Я хоця-ж в войску не служылам, але под-пулковніком былам...*

— А цяпер?

— Цяпер настаўніцай на „Крэсах".

## Жаласьлівы дзяк.

А як толькі ў цэркве дзяк
„Іже"... засьпявае —
Баба вось ў куточку цэрквы
З плачу самлявае...

Аж пачуўшы гэта дзяк
Да яе азваўся:
— Нашто плачаце вы так? —
Ў бабкі запытаўся.

— Як ня плакаці тут мне —
Бабка гэта кажа,
Бо ваш голас так мяне
Аж за сэрца вяжа...

Так калісь мая казулька
На лёдзе крычала,
Як ваўчыца козку бедну
Грызла, разрывала...



## Заіклівы.

*Пасажыр:* Куды вы мяне завязьлі? Я-ж вам казаў вязьці да дзевятага нумару, а вы завязьлі пад дзевятнацаты!

*Вазак:* К... к... ка-лі я... я... я ня мог с...с...ка-за-ць ад-ра-зу тр... тр... т..п...ру...

*Пасажыр:* А ці вы заўсёды гэтак заікаецеся?

*Вазак:* Н... не, як толь-кі га-ва-р...р...у!

«Зиз»



## Цяперашнія дочкі.

**Бацька** (*да нежаданага кандыдата на зяця*): Вы зачаста бачыся з маею дачкою, а я сабе гэтага не жадаю...

**Дачка** (*глянуўшы на бацьку супакойвае свайго абажацеля*): Нічога, нічога, мой мілы, калі бацька ня хоча, каб ты хадзіў да нас, дык я цяпер сама буду хадзіць да цябе.



## Сам-бы не ўтапіўся.

Паліцыянт, пішучы пратакол:

— Як вы думаеце, з якой прычыны ўтапіўся Мацей Тачыла?

—Ён сам не ўтапіўся, яго нехта ўтапіў, — кажа сьведка.

— Чаму вы гэтак думаеце?

— Бо як яго выцягнулі, дык пры ім знайшлі бутэльку з гарэлкай. Ён-бы яе выпіў сьпярша, а тагды-б тапіўся.

*Г. Л.*

# Народны гумар.

### ЯШЧЭ ДАЛЕЙ БЫЎ.

Паляк-асаднік пахваляецца перад селянінам-беларусам:

— Вось я *вшэндзе былэм і вэ Львове і в Кракове, але то вшэндзе, вшэндзе...*

— Э, гэта яшчэ нічога! Я далей быў, — адказвае селянін, я яшчэ трыццаць вёрст быў за *„вшэндзямі“*.



### НІЧОГА ДЗІЎНАГА.

Сяляне, ўбачыўшы праходзячага праз вёску польскага гімназістага, апранутага ў кароценькія спартовыя порткі, пачалі дзівіцца:

— Гэтакі вялікі бімбас, а порткі па калены носе.

— Што за дзіва, — адказвае другі, пры гэтакай даражыні хутка зусім бяз портак хадзіць будзе.



### ПАМІЖ ДЗЯЦЬМІ.

— Калі не дасі закурыць, дык я татку скажу.

— А што-ж мне твой татка?

— Мой татка— грамадзкі солтыс.



### СПУЖАЎСЯ.

Адзін прафэсар (вучоны), ў часе прыемнай пагоды, раньняй вясной выйшаў з места ў поле на спацыр, а спаткаўшы ратая-селяніна, пачаў з ім гутарку. Селянін быў вельмі здаволены з прыемнай пагоды, сказаў:

— Цяпер каб толькі троху цёплага дажджу, а ўсё замёршае жыцьцё з зямлі ўваскросьне.

— Барані божа! Толькі ня гэта! — адказвае са страхам прафэсар, „маю ў зямлі дзьве жонкі пахаваныя“.



### КОЛЬКІ ВЁРСТ ДА НЕБА?

Двох суседзяў ідуць з кірмашу, а як пяць вёрст пройдуць, дык і адпачываць трэба: бо як пяць вёрст, дык і карчма стаіць. Вось ідуць, ды адзін у аднаго пытаюцца:

— А што, — кажа адзін, якбы гэта палічыць, колькі-ж то будзе вёрст да неба?

— А хто яго ведае колькі. Думаю, што ўсё-ж вёрст з пяток будзе...

— А цьфу, куме, на цябе! Ды як-бы толькі пяць вёрст было, дык ужо б тут карчма стаяла.



# НАША ПОШТА.

Паведамляем паважаных нашых падпісчыкаў, што №№ 1 і 2 „Маланкі“ хутка разыйшліся, а дзеля таго не хапіла іх некаторым пазьнейшым падпісчыкам, за што Рэдакцыя просіць прабачэньня. №№ 3 і 5 конфіскованы ўладай і высланы быць ня могуць.

Паважаных песьняроў **Янку Башкіра і Міхася Васілька** просім пацешыць нашу Рэдакцыю сваімі вершамі.

Усіх паважаных нашых чытачоў, падпісчыкаў і сымпатыкаў „Маланкі“ просім запісваць і прысылаць нам анэкдоты і жарты, якіх мільёны ходзяць у народзе.

**К. Патоцкаму:** Вашы „Лісты асадніка“ будуць апрацованы і пададзены ў наступным нумары.

**З. Мойку:** „Маланку“ дзеля таго позна выслалі, што вы на грашавым пераводзе забыліся напісаць сваё імя і прозьвішча.

**Мастаку Я. Драздовічу:** Рысунак Ваш вельмі добры, але прышоў тагды, як нумар быў на машыне. Пастараемся зьмясціць яго ў наступным нумары пад іншым сосам.



# Падручнік для чытачоў „Сялянскай Нівы“.

Дзеля няведамых нам прычын рэдакцыя „Сял. Нівы“ пастанавіла ад жніўня пісаць так, каб чытачы не разумелі. Бяручы пад увагу, што некаторыя чытачы „Сял. Нівы“, нашыя прыяцялі, закідалі нас пісьмамі з просьбай тлумачэньня незразумелых слоў, лічым за свой абавязак даць тут невялічкі слоўнік-падручнік, тымчасам з аднаго № „Сял. Нівы“.

**Абмыла,** — вялікая памылка, напр., уваход Аляхновіча ў Паўлюкевічаву Раду.

**Із або ізь,** — (залежна ад гумару рэдактара), тое самае што „з“. Пішацца толькі ў філёлёгічных разважаньнях, ня пішацца ў перадавіцах.

**Увет,** — увага. Ужываць іншым часопісам забаронена.

**Пераз,** — праз. Можна пісаць дзе хочаш і калі хочаш, абы трудней было разумець.

**Наказаваць,** — падаваць да ведама. Слова дазваляецца ўжываць толькі сябром „Сял. Саюзу“ і дзеля гэтага спатыкаецца нязвычайна рэдка.

**Наўчоны,** — тое самае, што вельмі вучоны (надвучоны), асабліва калі скончыў унівэрсытэт у Празе.

**Чытар,** — Чытач з катэгорыі бясплатных падпісчыкаў, які грошаў ніколі ня шле, а лаецца, калі газэта неакуратна прыходзіць.

**Паймо,** — паняцьце. Пішацца ў сказах, дзе вымагаецца выняткавая чысьціня беларусчыны і яснасьць, напрыклад: „пераз гэта паймо спадар меў на ўвеце падымку маемасных і куплявых нашэльнікаў“.

**Сьледамка** — Сьлед, але толькі тады, калі зроблены непадалёку мяст. Крэва і на першым сьнягу.

**Начай** — гэтак зьвяртаецца злая жонка сэнатара да мужа, калі дае гарбату. (На, чай).

**Вугрыя** — востраў, адкрыты галоўным рэдактарам „Сял. Нівы“ на пінскіх балотах, меў перш называцца Стэповіяй — ад імя старшага падрэдактара.

**ё** — ёсьць. Ужываецца ўсімі дзяцьмі беларускімі ў веку ад 2 да 4-х гадоў, дзеля чаго мае поўнае права „абыватэльства“ на шпальтах „Сял. Нівы“.

**Зьверх** — паляваньне. Чытай перадавіцу ў „Сял. Нів.“ —„Выходзьма на зьверх“.

Словы **ўрымсьціць, як-га** і дзесяткі іншых, якіх спэцыяльная камісія „Маланкі“ не магла раскусіць, наша рэдакцыя думае пераслаць у „Biełaruskuju Krynicu“ ў аддзел загадак.



# Грамадой у „Грамаду“!..




(Сяляне ўцякаючы з „П. П. С.“, „Вызваленя“ і „Сялянскага Саюзу“) і ўступаючы ў Беларуск. Работн.-Сялянск. Грамаду пяюць:

Думка ў думку, дружна, сьмела
Усе наперад грамадой!

Кожны ведай свае дзела,
Знай за праўду крэпка стой!

К новай долі шлях нам ляжа,
Як на небе млечны шлях,

Слова, дум ніхто ня зьвяжа,
Жыць, цярпець ня будзе страх!

І ня стане больш пакуса
Першых лепшых збоку браць

Селяніна — беларуса
Вечна ў лапці абуваць.

**Янка Купала.**

---

# Загранічны Гумар.



**НЯМЕЦКІ ГУМАР.**

**Бальшавік да Францыі:** Што датычыць узаемааднносін, дык чаму-ж не, магу іх ізноў заключыць, але да дзіцяці не прызнаюся. Гэта не мае (царскія даўгі).






**АМЭРЫКАНСКІ ГУМАР.**

Бацька „Час“ ня верыць у агульна-народнае абязброеньне, калі дзяржавы Эўропы ўзаемна спрачаюцца, а дзеля таго бярэцца перамаляваць іх у „Злучаныя Штаты Эўропы“.

**Увага „Маланкі“:** Толькі Работніцка - Сялянскія Злучаныя Штаты перакуюць мячы на плугі і машыны.



**ІТАЛЬЯНСКІ ГУМАР.**

**Рыфэнчык:** Ну, добра, я падаюся, але хачу мець умову, напісаную чорным на белым:

**Гішпанія і Француз:** А мы хочам наадварот: напісаць табе на чорным...



---

Рэдактар-выдавец **М. Луцэвіч.** Друкарня Б. Клецкіна, Вільня